PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 41 (1848) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 13 КАСТРЫЧНІКА 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



Сцягі на будынку Гарадского Савета ў Мінску 12 верасня г. г. *Фота А. Ахраменкі („Навіны")*

# ЖЫВЕ САБЕ БЕЛАРУСЬ!

**Менск, 20 верасня 1991 г.**

19 верасня Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб змене назвы дзяржавы: цяпер афіцыйная назва — Рэспубліка Беларусь. Пастанова была прынята амаль па заканчэнне нечарговай сесіі. Амаль поўныя два дні былі патрачаны на выбар старшыні Вярхоўнага Савета. Стаў ім, нарэшце, Станіслаў Шушкевіч, беларускамоўны, „не партыйны", прафесар фізікі, які паспеў ужо, аднак, пакаштаваць салодкі смак улады будучы першым намеснікам няслаўнай памяці Дземянцея. На сваю новую пасаду Шушкевіч не ўвайшоў з гонарам. Выбары паўтараліся аж тры разы. Быў нават парушаны закон, каб толькі вылучыць старшыню, без якога Савету як быццам бы не быць. Пры нагодзе выбару выявіліся галоўныя сілы беларускага парламента. Апрача Шушкевіча кандыдатамі на пасад старшыні Вярхоўнага Савета былі пастаўлены: прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, сябра БНФ Уладзімір Заблоцкі і правінцыяльны апаратчык-бізнесмен Карпенка. Заблоцкі набраў усяго 22 галасы, што не найлепш сведчыць пра рэальную сілу апазіцыйнай фракцыі. Да таго ж Заблоцкі прамаўляў парасейску. Шушкевіч і Кебіч ішлі амаль роўна, аднак, ніхто не мог доўга здабыць законнай большасці. Відавочна, найбольш выгадным для ўсіх кандыдатам быў Шушкевіч. Кебіч займеў дрэнную славу будучы шэфам кабінета, некаторыя міністры якога адкрыта падтрымалі маскоўскі путч. Дарэчы, міністрамі яны застаюцца і сёння, ды яшчэ да таго кажуць, што Кебіч масава прымае цяпер у Савет Міністраў беспрацоўных членаў ЦК КПБ.

На плошчы, пад час трывання сесіі, увесь час ішоў палітычны мітынг пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Лозунгі за незалежнасць Беларусі і адстаўку ўрада Кебіча. Прымае ўдзел, у сярэднім, каля дзвюх сотак людзей. На другім баку вуліцы таксама натоўп. Ідзе своеасаблівы плебісцыт пра будучыню статуі Уладзіміра Ільіча перад Домам Урада. Збіраюцца подпісы на двух спісках: адзін за тое, каб Леніна зняць, другі за тое, каб пакінуць. Кажуць, статуя з'яўляецца неадлучным элементам мастацкай развязкі архітэктурнага комплекса Дома Урада, які ёсць выдатным помнікам мадэрнай архітэктуры (мала хто ведае, што пачалі яго будаваць яшчэ ў канцы 29-ых гадоў). Зрабіўшы хуткі зрокавы аналіз плошчы, я вырашыў, што нейкая статуя быць павінна, але ці абавязкова якраз Леніна? Без шкоды для мастацкага вобліку плошчы можна было Ільіча замяніць некім іншым, напрыклад, Хрыстафорам Калумбам, дзякуючы якому так многа беларусаў можа наведаць прыгожую краіну, Амерыку.

**( Працяг на стар. 8 )**




**Данута Бічэль**

## Даўно гэта было

Вёў ціхі дворык у старыя сенцы.
У сенцы праз вакно налезла мухаў.
Зьбіраліся там чыста адраджэнцы,
хто сам сябе агітаваў і слухаў.

І зь імі панна ў вышытай сукенцы.
І кожны панну зрэдку вокам кратаў.
Але ніхто ня кратаў за каленцы.
Яны лічыліся за дэмакратаў.

Дурэў ня той, хто выступаў бяз толку,
а гэты ціхі лысы жук вусаты,
які на вочы не трапляў натоўпу,
бо мітынгі склікалі дэпутаты.

Вісеў на шэрых сенцах белы коньнік.
Яго на пляц выводзілі зрэдзьчасу.
Ім прыкрывалі паламаны ўслонік,
бо нават цьвік прыбіць ня мелі часу.

Спрачаліся... Пакуль нагнала хмару
за нейкія грахі ці мо за кару
зьбірацца ім сказалі пад наглядам.
А коньнік стаў наперад ехаць задам.

Кансалідацыя і з гэтымі і з тымі.
Ніякія зрабіліся сьвятымі.
Нясе свой крыж паміж рагоў алень.
І кожны, хто тут ёсьць, дурны, як пень.



Супынена дратаваньне адметнасьці
Уладай савецкай.
Любіла сялянка-цётка
адметнае слова „цёнгле".
Молімся з польскім ксёндзам
прад Маткай Боскай Студэнцкай,
каб польскасьць на Усходніх Крэсах
квітнела толькі ў касьцёле.

Польскаю мовай з Богам
праз ксёндза мушу змаўляцца.
Але ў таемнай малітве
дома
шапчу да пары
на мове мужыцкай, якою
ажно захлынаюцца пляцы.
На ёй гарлапаняць моўцы,
натоўпы і песьняры.



# НАШЫ КАНДЫДАТЫ

**МІРАСЛАЎ ЦЕЛУШЭЦКІ — нарадзіўся ў 1958 г. у Нараўцы. Беларус, праваслаўны. Уладальнік 14-ці гектараў зямлі ў вёсцы Новае Беразова (гміна Гайнаўка). Кіруе фірмай „Амега", якая прадае сельскагаспадарчыя прадукты за мяжу. Прадстаўніцтвы фірмы „Амега" знаходзяцца таксама ў іншых краінах.**

## НЕ ДАПАМОГУЦЬ НАМ НІ КРЭДЫТЫ, НІ АБЯЦАННІ

**„Ніва"** — *Вы ўладальнік і кіраўнік фірмы „Амега". Якія мэты ставіце сабе і фірме?*

**Міраслаў Целушэцкі** — Чыста эканамічныя.

— *Якім спосабам хочаце зарабляць грошы?*

— Уваходзім у стабільныя доўгатэрміновыя кантракты з замежнымі купцамі на сельскагаспадарчыя прадукты паўночна-ўсходняга рэгіёна Польшчы. Не разлічваем на хуткі і лёгкі даход, як гэта многія рабілі і ў эфекце правальваліся. Мы рыхтуемся да шматгадовай саліднай працы.

—*Сваю будучыню бачыце ў сельскай гаспадарцы?*

— Сельская гаспадарка гэта не толькі будучыня нашай фірмы, гэта падстава ўсяе эканомікі нашага рэгіёна. Гаспадары на Беласточчыне маюць дастаткова добрую базу для вытворчасці, праблема ў тым, каб быў на яе пастаянны збыт. Але, апрача таго, што можна прадаваць



прадукцыю сялян адразу, можна і трэба перарабляць яе на месцы і прадаваць ужо гатовыя перапрацаваныя тавары. На сённяшні дзень наша фірма мае падпісаныя кантракты на продаж збожжа ў Беларусь, але ў будучыні думаем будаваць на Беласточчыне перапрацоўчую інфраструктуру. Рэальная перспектыва пабудаваць млын, сучасную перагрузачную станцыю.

**Трэба толькі зразумець, што рух наперад у эканоміцы можа пачацца з вёскі. Калі, напрыклад, наша фірма купіць збожжа ў гаспадара і гаспадар будзе мець грошы, тады ён купіць у нас паліва або ўгнаенні і мы будзем мець грошы. З нашых падаткаў грошы будзе мець дзяржава, а за іх можна скончыць хаця б пабудову гайнаўскай бальніцы (а ўсё ж гэта скандал, калі** затрымоўваецца пабудова такога аб'екта, які выкананы ў звыш 90 %). Таму трэба гаспадару стварыць магчымасці добрых заробкаў. Ён не прагуляе грошай на Канарскіх астравах, а заінвестуе: купіць трактар, пабудуе абору. На гэтым зарабляе „Урсус", завод, які прадукуе цэглу, і так далей... Заможны гаспадар — падстава для раскручвання кан'юнктуры ў эканоміцы цэлае краіны. Калі я быў у Амерыцы, бачыў, што ўрад дбае пра фермераў, каб не мелі яны праблем з продажам сваіх прадуктаў, інакш быў бы скандал.

— *Ведаю, што Вы пад час свайго побыту ў Злучаных Штатах падтрымоўвалі цесную сувязь з тамашнімі беларусамі. Дапамагалі таксама фінансава беларускім установам на Беласточчыне.*

— Я, між іншым, у пэўнай ступені спрычыніўся да прыезду пяці вучняў і дырэктара Гайнаўскага беларускага ліцэя на 19-ую Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі. Хачу гэту ініцыятыву прадаўжаць і ў будучыні. Добра было б, каб на наступную сустрэчу паехалі таксама ліцэісты з Бельска.

— *Давайце вернемся да гаспадаркі і палітыкі. Вы — кандыдат у Сейм Польскай Рэчыпаспалітай, чые інтарэсы думаеце там адстойваць? Ці нейкага класа бізнесменаў, уладальнікаў фірмаў, падобных на Вашу, ці інтарэсы выбаршчыкаў, ці можа яшчэ каго-небудзь?*

— Я хачу дбаць пра інтарэс Беластоцкага рэгіёна. Іншыя рэгіёны выбіраюць сваіх прадстаўнікоў і няхай яны пра іх дбаюць. Добра, што пачаўся ў краіне працэс рэгіяналізацыі. У рэгіёне мы лепш ведаем нашы праблемы і можам самі іх найлепш вырашыць. Для Беласточчыны самым пільным з'яўляецца забеспячэнне рэнтабельнасці сялянскіх гаспадарак. Для гэтага патрэбныя дзяржаўныя датацыі і развіццё экспарту, асабліва прыгранічнага абмену. Неадкладнага ўпарадкавання патрабуе сістэма сацыяльнага забеспячэння — справа пенсіянераў і неадпаведных пенсій выклікае шмат рознагалосся.

— *Вы тут пастулюеце пэўныя інгерэнцыі дзяржаўных уладаў у сферу эканомікі. Ці гэта значыць, што не згаджаецеся з ліберальнай палітыкай цяперашняга ўрада?*

— План Бальцаровіча вядзе за сабою некаторыя цяжкасці, на рынку паявіліся нават сімптомы хаосу. Але я падтрымоўваю гэты план. Усе, хто скаліць на яго зубы, не маюць ніякага плана. Мы не можам разлічваць, што за год дагонім Еўропу. Трэба працаваць. Толькі потым прыйдуць эфекты. Не можам больш верыць у крэдыты, яны нам не памогуць, як не выратуюць нас пустыя абяцанні. Крэдыты раней ці пазней трэба сплаціць, што можна зрабіць з абяцаннямі — брыдка нават казаць. Мы мусім усведаміць сабе, што ў нас ёсць тавары, за якія мы павінны атрымаць грошы, у першую чаргу гаспадары. Палітычная і эканамічная сітуацыя ў Савецкім Саюзе дае вялікія магчымасці для рэгіёна развіваць гандаль, турыстыку і т.п. Разумная палітыка і людзі з ініцыятывай, якія ўмеюць выкарыстаць магчымасці, гэта варункі гаспадарчага поспеху. Усё астатняе ў нас ёсць.

—*Дзякуем за размову.*

---

**УЛАДЗІМІР ЛУКОШЫК — нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Дзернякова (гміна Гарадок), закончыў Педагагічны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім і Галоўную сельскагаспадарчую школу ў Варшаве, працаваў настаўнікам у пачатковых школах Беластоцкага павету, пяць гадоў быў дырэктарам СКР у Гарадку, ад 1980 года працуе на сваёй 52-гектаровай гаспадарцы ў Гарадку, жанаты, тры сыны.**

## КУДЫ МЫ ІДЗЕМ?

**„Ніва":**— *Ці вялікая ў Вас гаспадарка?*

**Уладзімір Лукошык:** Усё залежыць ад таго, як на гэта глядзець. Калі паводле таго, які арэал ды які прыбытак з яго, то зусім малая, а калі глядзець на тое, колькі ў гэту гаспадарку трэба ўлажыць, то вельмі ж вялікая.

— *А паводле гектараў?*

— Пяцьдзесят пару гектараў, дваццаць з якіх гэта лес. Тры гектары і семдзесят сотых — ворная зямля, а з іншымі зялёнымі ўжыткамі ўсяго будзе дваццаць пяць гектараў. Зямля ў адным кавалку — ад ранняе вясны да позняе восені трэба быць на гэтым кавалку. Мая гаспадарка аднaзначна настаўлена на гадоўлю жывёлы — яна вызначае маё жыццё і працу. Да гэтага года было ў мяне 40-50 штук, разам з маладняком. У гэтым годзе 35, з чаго



13 — гэта дойныя каровы. Кожная з іх дае ў сярэднім 4500-4700 літраў малака ў год. Прыкладна ў гэтым годзе продаж малака ў малачарню завершыцца ў мяне лічбай за 50 тысяч літраў. Малако, праўда, прадаю не толькі ў малачарню, але і непасрэдна людзям — невялікую колькасць. Уся бяда нашага гаспадарскага насельніцтва ў тым, што малачарня прымаць малако то прымае, але заплата за месяц ліпень, у найлепшым выпадку, мае быць у лістападзе. Такая вось сітуацыя.

— *Ці Ваша гаспадарка выходзіць на сваё ды ці ёсць з яе нейкі прыбытак?*

— Выходзіць на сваё то я выходжу, але прыбытку аніякага з гаспадаркі не маю.

— *То адкуль грошы на штодзённыя гаспадарскія расходы?*

— Як я ўжо казаў, штодзень прадаю тых 5-10 літраў малака непасрэдна людзям, кілаграм-два яек, сам прадукую смятану — 10 тысяч за літр, трымаю трохі авечак — прадаю па шэсць тысяч за кілаграм мяса. На хлеб і цукар гэтага хапае. Летам тры бычкі давялося прадаць — на самыя неадкладныя справы: падаткі, ропа, часткі да машын. Фінансава не вельмі цяпер цікава на гаспадарцы. У студзені за бычка пад 500 кілаграмаў я дастаў тры мільёны восемсот, а за такую ж штуку летам я ўжо дастаў два мільёны трыста — гэта на паўтара мільёна танней, як паўгода раней. Колькі змогуць, столькі і зніжаюць цану нашай гаспадарскай прадукцыі, а ясная справа, што нашы кошты не зніжаюцца, а зусім наадварот — ідуць угару.

— *Як, па-Вашаму, ёсць нейкая перспектыва на гаспадарцы?*

— На сённяшні час, для таго, які хацеў бы распачаць гаспадарку, — няма ніякіх шанцаў. Калі хто думае інакш, то памыляецца. Ці будзе нейкая перспектыва ў будучым — цяжка сёння сказаць.

— *Але ж Вы не пачынаеце, Вы ўжо, так сказаць, зжыліся на сваёй гаспадарцы — як па-Вашаму, жыць тут можна, утрымаецеся на гэтай гаспадарцы?*

— Я сабе паставіў мэту — мушу ўтрымацца на сваёй гаспадарцы, нягледзячы на ўсё. Зашмат я ўлажыў у сваю гаспадарку сэрца і працы, каб цяпер усё гэта кінуць і пачынаць у іншым месцы. Дарэчы, пачынаць цяпер нешта ў іншым месцы — ці лёгка? Я пабываў ужо ў шмат якіх рэгіёнах нашай краіны і вярнуўся сюды, у Гарадок, не па тое, каб другі раз адгэтуль уцякаць. Было б зусім смешным, каб чалавек, які тое-сёе ў гаспадарцы пабудаваў, які навучыўся гаспадарыць — меў абанкруціцца. Калі мая гаспадарка, не такая ўжо малая, упадзе, дык што будзе з меншымі і зусім малымі гаспадаркамі? Цяпер самая цяжкая сітуацыя, калі над гаспадаркай вісяць даўгі. Я восенню 1989 разлічыўся з усімі крэдытамі, якія я ўзяў, дык магу сказаць, што я ў лепшай за іншых сітуацыі.

— *Вы кандыдат у Сейм. Што, па-Вашаму, мусіла б змяніцца ў краіне, каб быў сэнс працаваць на гаспадарцы?*

— Самая важная тут агульная сітуацыя ў краіне. У людзей няма грошай, наш унутраны рынак зрабіўся бедным, вайна з інфляцыяй задушыла ўсякую прадукцыю, няма збыту на нашу гаспадарскую прадукцыю — мы яе амаль задарма аддаем. У нармальным свеце, а нармальным светам у апошнім часе прызнаем Захад, прамысловасць падтрымлівае сельскагаспадарчую прадукцыю, а ў нас, проста, няма з каго ўзяць, каб гаспадару заплаціць за яго тавар столькі, колькі ён павінен каштаваць, каб усё гэта было ўрэшце падобнае да чагосьці. Я не магу зразумець сённяшнюю палітыку — калі мне, з гэтай тэхнічнай абслугай, якая ў нас ёсць, кажуць канкураваць з амерыканскім фермерам, ці нідэрландскім альбо нямецкім гаспадаром, ну, то людзі — гэта ж адзін смех. Мы хутка перастанем быць канкурэнцыяй для беспрацоўных, бо

( Працяг на стар. 8 )

## *Бібліяграфічны куточак*

### АНТЫКВАРЫЯТЫ ПРАПАНУЮЦЬ...

17 кастрычніка г.г.у клубе МПіК у Кельцах, вул. Варшаўская 5, будзе праходзіць VI кялецкі антыкварны аўкцыён. На ім будуць прадавацца з торгаў такія вось выданні:

Poz. 58 — Łubieński R., Konstanty-Ireneusz Pomian hrabia Łubieński, biskup sejnejski, Kraków 1898. Cena wywoławcza 120 tys. zł.

Poz. 89 — Przybyszewski J., Język rosyjski w katolickim rytuale i w dodatkowym nabożeństwie..., Lwów 1897. C.w. 80 tys. zł.

Poz. 112 — Ulanicki W., O półkopku litewskim Zygmunta Augusta 1565 roku, Warszawa 1897. C.w. 80 tys. zł.

У пісьмовых заказах, накіраваных на адрас: Antykwariat Naukowy, skr. poczt. 88, 25-953 Kielce 12, з прыпіскай: „Aukcja", неабходна падаць: нумар пазіцыі, аўтара і загаловак, а таксама найвялікшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за кніжку.

* * *

Той жа самы Антыкварыят (адрас — як вышэй), у „Ofercie Nr 8", г.зн. — у звычайным продажы, прапануе м. інш.:

Poz. 48 — Czeczot W., Dyecezya Mińska i jej pasterz biskup Zygmunt Łoziński, Wilno 1925. Cena 38 tys. zł.

Poz. 122 — Tripplin T., Dziennik podróży po Litwie i Żmudzi odbytej w 1856 roku..., Tom 2 — Żmudz, Wilno 1858. Cena 60 tys. zł.

* * *

Іншы кялецкі антыкварыят („Filar" — Henryk Rączka, skr. poczt. 398, 25-955 Kielce 1), у „Ofercie Nr 18", таксама ў свабодным продажы, прапануе:

Poz. 27 — Bujak A., Misteria, W-wa 1989. Cena 36 tys. zł.

Poz. 245 — Spiss T., Wykaz drewnianych kościołów i cerkwi w Galicyi, Lwów 1912. Cena 480 tys. zł.

Poz. 308 — Wołłosowicz S., Litwa i Białoruś, Cz. 1: Budowa fizyczno-geograficzna, W-wa 1920, Cena 80 tys. zł.

* * *

У „Ofercie Nr 3/91" (свабодны продаж) чанстахоўскага антыкварыяту (Księgarnia-Antykwariat „Niezależna", skr. poczt. 357, 42-207 Częstochowa) знаходзім вось такія выданні:

Poz. 29 — Łopalewski T., Między Niemnem a Dźwiną (z serii: Cuda Polski) — Reprint. Cena 20 tys. zł.

Poz. 41 — Remer J., Wilno — j.w. Cena 20 tys. zł.

Poz. 228 — Widokówka „Stroje ludowe z Wileńskiego". Cena 15 tys. zł.

Poz. 464 — Karpiński J.J., Puszcza Białowieska, Wyd. Kraj. 1951. Cena 24 tys. zł.

Poz. 465 — Karpiński J.J., Białowieski Park Narodowy, SiT, 1961. Cena 18 tys. zł.

Poz. 503 — Orłowicz M., Przewodnik po ziemiach dawnej Polski, Litwy i Rusi, GiW, 1914 (reprint). Cena 25 tys. zł

Выбраў:
**ПЁТР БАЙКО**

## Свойскія малюнкі



Возера Краснае каля Супраслі.

*Мал. У. Петрука.*

********************************************************

## НАШЫ КАРАНІ

### XIX. АСВЕТНІЦА І ВЫХАВАЦЕЛЬКА

На жаль, не ўсе мы і не заўсёды ўсведамляем, што прыняццё хрысціянства нашымі продкамі было найбольшай і найважнейшай падзеяй у гісторыі як беларускага, так і іншых народаў. А гэта таму, што прыняццё і ўмацаванне хрысціянства абазначала ўваход у плынь самай высокай і самай багатай у тыя часы на свеце міжземнаморскай культуры. Разам з вучнямі і паслядоўнікамі святых роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія з Маравіі і Балгарыі, хрысціянізацыйнымі місіямі з Корсуні і Канстанціноналя ішоў на нашыя землі поступ, прагрэс ва ўсіх дзялянках жыцця.

Пад непасрэдным уздзеяннем Царквы паганскае, язычаскае самавольства і бесчалавечная жорсткасць пачалі паступова сунімацца, асабліва калі суды сталі спраўляцца паводле пісаных па візантыйскаму ўзору законах, або „праўдзе", як гаварылася ў тыя часы. Не забывайма таксама, што першымі сапраўднымі педагогамі, адукаванымі, ахвярнымі і чулымі былі праваслаўныя свяшчэннікі, манахі, манашкі, людзі, блізкія Царкве. Гэта яны цярпліва, але настойліва вучылі нашых продкаў не толькі падставам пісьменнасці ці арыфметыкі, але і не мала іх адукавалі на выдатных дзеячоў царкоўнага жыцця, пісьменства, багаслоўя, прававодства, адміністрацыі і іншых дзялянак ведаў. Святары і манахі былі лекарамі і аптэкарамі. Не хто іншы, як манахі і манашкі былі першымі аграномамі і заатэхнікамі, а манастыры выконвалі ролю ўзорных гаспадарак у пашырэнні перадавых для тых часоў метадаў у сельскай гаспадарцы, жывёлагадоўлі, агародніцтве, садаводстве і другіх формах вытворчасці. Манастыры вучылі моладзь шматлікім рамёствам, асабліва тым, якіх не ведалі ўсходнія славяне ў дахрысціянскія часы, як хаця б выраб пергаменту, перапісванне кніг, кніжнае мастацтва, іконапіс, выраб цэглы і мураванае будаўніцтва ды сотні другіх рамёстваў і мастацтваў. Праваслаўная Царква ад пачатку свае дзейнасці і праз доўгія стагоддзі была адзінай апякункай, фактычнай настаўніцай і выхавацелькай пісьменнікаў, жывапісцаў, музыкаў, архітэктараў і іншых творцаў. Прытым вучыліся і дасканалілі яны свае таленты на ўзорах найвышэйшых дасягненняў сусветнага мастацтва, бо на мастацтве Грэцыі і Візантыі.

Гэтую шляхетную, высакародную ролю настаўніка і сейбіта чалавекалюбных, гуманітарных паводзінаў людзей, пашырэння асветы і культуры, разбуджвання і фармавання талентаў выконвае наша Праваслаўная Царква і сёння. Бадай, ніводзін з цяперашніх праваслаўных мастакоў-жывапісцаў не запярэчыць, што глыбокі змест, пранікнёнае ўздзеянне і непаўторная прыгажосць праваслаўнай іконы разбудзіла ў ім цягу да красы і імкненне да яе стварэння. Ніхто з нашых музыкаў не адмовіцца ад пацвярджэння тае праўды, што цудоўныя, узрушальныя царкоўныя спевы ад маленства захапілі яго і сфармавалі ў ім замілаванне да музыкі. Нельга абмінуць і той факт, што ўлюбёнасць да спеваў, музычную культуру і жаданне да стварэння хораў развіла і ўмацавала ў нашым народзе якраз Праваслаўная Царква.

Памятайма, што болей за тысячу гадоў Праваслаўная Царква адначасова з навукай Хрыстовай нясе ў наш народ асвету і культуру і што толькі яна, а не хто іншы, вывела колішнія паўдзікія паганскія плямёны славянаў з цемры на святло цывілізаванага грамадства. Сёння яна таксама — найважнейшая выхавацелька нашага народу.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

********************************************************

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

### II. Максім Багдановіч аб Беларусі

У чарговым артыкуле „За сто лет" Багдановіч паглыбляецца ў сутнасць беларускай літаратуры XIX ст. Не можам не пагадзіцца з выказваннямі Алега Лойкі, які сцвярджае, што вялікая заслуга яго (М. Багдановіча, — Я.Т.) у вызначэнні перыядаў развіцця нашай літаратуры ў гэтым стагоддзі, якое ён рабіў, правільна ўлічваючы шэраг гістарычных падзей, сувязь новай беларускай літаратуры з суседнімі рускай, украінскай, польскай, памятаючы пра ўласныя заканамернасці развіцця роднай літаратуры на гэтым этапе. Багдановіч разумеў своеасаблівасць развіцця беларускай літаратуры XIX ст., ролю Чачота, Рыпінскага ў яе ажыўленні. „Рамантычны кірунак", прадстаўнікамі якога былі вышэй згаданыя паэты, прычыніўся да таго, што: „На страніцах журналаў пачалі з'яўляцца беларускія казкі і песні, у апавяданнях з краёвага жыцця ўвесь час спатыкаліся беларускія выразы, іншы раз гутаркі дзе-якіх асоб пераказваліся нават цалікам па-беларуску; а адсюль ужо недалёка і да чыста беларускіх твораў" („За сто лет"). Але Багдановіч усведамляў, што дарога да іх нялёгкая, так як матэрыялы са старонак газет і часопісаў „(...) не маглі мець колькі-небудзь паважнага значэння, бо караніліся не ў шырокіх грамадзянскіх патрэбнасцях, а ў прыхільным душэўным настроі гуртка асоб, зросшыхся з польскай ці іншы раз расійскай культурай, да народа ж гэтыя творы бадай што не даходзілі (за для) гэтага аўтары іх марыць не маглі аб праўдзівым здавальненні духоўных патрэб чытачоў ці аб развіцці беларускай культуры" („За сто лет").

Рыгор Бярозкін, каменціруючы артыкул, трапна заўважыў, што „(...) Максім Багдановіч глядзеў на беларускую літаратуру, на яе развіццё і рух як на варыянт сізіфавай працы. Паміж двума намаганнямі падняць камень угору — дзесяцігоддзі, а то і вякі. Творцы „краёва"-патрыятычнай літаратуры пачатку XX стагоддзя, пра якіх Багдановіч піша ў артыкуле „За сто лет" (1911), ужо не бачылі сваіх папярэднікаў-асветнікаў, памфлетыстаў, храністаў XVI-XVII стагоддзяў. Затое сама гэта літаратура этнаграфічнага рамантызму — кропка ў пункціры, звяно ў ланцугу, які ўжо рвацца не будзе, і поступ, дыханне сваіх наступнікаў яна ўжо чуе" („Свет Купалы. Звенні").

Беларускай літаратуры XIX ст. датычыць іншы артыкул Багдановіча пад загалоўкам „Булгарин в белорусской шуточной поэме". Паэмай гэтай з'яўляецца твор „Тарас на Парнасе", напісаны ў 1837 або 1843 г., а найхутчэй у сярэдзіне 50-х гадоў, пасля смерці Гогаля і Жукоўскага (1852), але пры жыцці Булгарына і Грэча.

Паэма зацікавіла аўтара не толькі сваім мастацкім узроўнем, але перш за ўсё выпадам супраць Булгарына і Грэча, зробленым пры апісанні Парнаса.

# Іх папараць-кветка або ў амерыканскіх беларусаў

## 24. ЯК АПРАНАЮЦЦА АМЕРЫКАНЦЫ

Калі хтосьці ўяўляе сабе, што большасць амерыканак апранаецца, як Алексіс Колбі або прынамсі Крыстэль Карынгтон з шматсерыйнага фільма „Дынастыя", які ўжо вось пару гадоў у кожную сераду паяўляецца на нашых экранах, манячы нас у далёкія краіны і спакушаючы роскашшу амерыканскага жыцця, — дык як жа глыбока ён памыляецца!

У сапраўднасці ўсё яно выглядае якраз наадварот, і нашай дзяўчыне, якая хоць раз прайшлася па варшаўскім Новым Свеце ў сезоне, калі не павыязджалі студэнты, няўцям, што амерыканскія вуліцы могуць выглядаць аж так скромна і шэра.

І таму знаёмая беластаччанка Аля Козяк, якую сустрэла я ў Чыкага, усё цвярдзіла мне: „Пані Ада, я дома саромелася б выйсці ў магазін насупраць, каб была так апранута, як яны тут ходзяць па горадзе!" Праўда, Аля трапіла адразу ў не найцікавейшы раён горада, але ўсё роўна не магла надзівіцца: „У магазінах усяго поўна, а на людзях не відаць!" І сапраўды, у магазінах — выбірай што хочаш, па густу, размеру і колеру. Хочаш купляць у лепшых магазінах, элегантных — калі ласка, можаш заходзіць і разглядацца, людзей тут няшмат. Абслужаць цябе адпаведна элегантна, але мусіш і заплаціць адпаведна высокую суму грошай.

Сярэдні амерыканец стараецца, аднак, купляць прамысловыя тавары намнога танней, чым каштуе ён у так званых добрых магазінах. І таму ён такія магазіны найчасцей абмінае. Юля Андрусішына завяла мяне ў магазін з дзіцячым абуткам на Манхатане, а пасля вельмі здзівілася, што я купляю дзіцячыя баціначкі за 40 доляраў. Мы, кажа, у такіх магазінах не купляем. А мне з маёй усходнееўрапейскай ментальнасцю і няўцям было, што трэба шукаць, дзе танней. Тут належала толькі паглядаць.

Хто хоча купіць танна і добра, чакае пераацэнкі (якую робяць там даволі часта — тавары не могуць ляжаць занадта доўга, калі іх не пераацаніць, дык іх ужо зусім ніхто не купіць!) або едзе на рынак і купляе тыя самыя тавары, толькі за паўцаны.

На рынку — тавараў не мора: акіян. Вера падыходзіць да лаўкі з сумачкамі. „Колькі?" — пытае. „100 доляраў!" „Трэба будзе купіць, — кажа яна, — мне такія падабаюцца. Гэта ж амерыканская імітацыя французскіх сумачак, а тыя па 500 доляраў!" Дома Антон хваліцца мне, што купіў сабе ад сябра скураную куртку за паўцаны. „Падумай, — кажа, — усяго 290 доляраў!" „Затое, — прыцішаным голасам дадае Вера, — за новы Антонаў касцюм заплацілі 800 доляраў!", а я зусім не здзіўляюся: „Каму ж ужо тады і купляць, як не вам!"

Так паўстае багацце амерыканцаў: думаюць над кожным выдаткам, над найменшай інвестыцыяй. Без доляравага рахунку ў банку чалавек значыць там вельмі мала. Мы такіх праблем не маем: таму, што маглі б мы заашчадзіць, і так грош цана.

На мноства прамысловых тавараў людзі не звяртаюць увагі. Яны да іх прывыклі. Вопратка не заслане ім свету, як прыбышу з Усходу. Людзі маюць іншыя патрэбы і выдаткі: хата, дача, добры самаход.

Гэта ў нас некаторыя жанчыны гатовы не піць і не есці, усё пераводзячы на анучы. Адна мая знаёмая студэнтка прадавала нават карткі на абед, купленыя ёй бацькамі (ведалі, што на абед ёй грошай не застанецца), абы купіць яшчэ адну модную спаднічку.

Амерыканцы, якіх сустракала я на вуліцы, апрануты абы-як, вельмі проста, без ніякага стылю, нямодна. Былі дзве жанчыны, апранутыя „фільмова": адна ішла па Пятай авеню — была апранута ў вельмі абціслыя бліскучыя штаны і такі ж верх; другая — гэта была прастытутка ля публічнага дома, апранутая вельмі стылёва — у скуру ад ног да галавы. Але было гэта ў цэнтры Нью-Йорка.

Модная моладзь ходзіць найчасцей усё яшчэ ў „анучах" з тэхасу, абдзертых (хаця новых), са спецыяльнымі латамі і... з бліскоткамі, каменьчыкамі, аплікацыяй са скуры.

У тэатр людзі апранаюцца элегантна, але скромна, пераважае чорны колер. Цудоўныя сукенкі апранаюць тут на баль (у магазінах іх поўна — трыкатажныя, з джэтамі і цэкінамі); жанчыны выцягваюць пры гэтым з хатніх схоўкаў найпрыгажэйшую біжутэрыю і надзяваюць на спрацаваныя нярaз рукі.

Мужчыны, здаецца, зусім не прыдаюць сваёй вопратцы ніякага значэння. Ходзяць у тым, у чым добра адчуваюць сябе.

Скромна, надта скромна выглядаюць звычайныя людзі на амерыканскіх вуліцах... Можа тыя, што апранаюцца, як у фільме, проста сядзяць у аўтамашынах?!

(*Працяг будзе.*)

**АДА ЧАЧУГА**



*Так апранаюцца амерыканкі паводле журнала „WHERE" (Вашынгтон).*

*******************************************************************************

Булгарын — адзін з выдаўцоў рэакцыйнай газеты „Северная пчела" ў 30-50-х гадах змяшчаў у сваім перыёдыку пашквілі, скіраваныя супраць лепшых гогалеўскіх твораў. Не цаніў іншых, але сам хацеў першы ўзлезці на Парнас. Паводле Багдановіча, аўтар паэмы — чалавек, які добра ведаў рускую літаратуру і яе галоўных прадстаўнікоў, разумеў „хто ў яе сын, а хто падкідыш", хто павінен быць на Парнасе, а хто — не. Гэты, хаця і не вельмі моцны ўдар па Булгарыну і Грэчу, выклікае зацікаўленне тым большае, калі ведаем, што з'явіўся ён, як піша крытык, у скромнай беларускай літаратуры.

Розгляду творчасці толькі аднаго паэта, а менавіта Янкі Лучыны, Багдановіч прысвяціў кароткі нарыс „І. Неслухоўскі". Аналізуючы творчасць таго або іншага пісьменніка, крытык разглядаў яго творы не ізалявана, а ў цеснай сувязі з той эпохай, з той рэальнай рэчаіснасцю, якая знайшла адлюстраванне ў яго творах. Дастасоўваецца да гэтага прынцыпу і ў гэтай працы.

Характарызуючы паэтычную дзейнасць Янкі Лучыны, М. Багдановіч разглядае яе ў сувязі з паніжэннем тонуса грамадскага жыцця ў 80-90 гадах XIX ст. Яго, небагатую колькасна, літаратурную спадчыну, тлумачыць не бясплоднасцю таленту, а агульным характарам таго часу, на які прыпадае яго пісьменніцкая праца. „На вялікі жаль, гэта былі нудныя 80-я і 90-я гады, калі ўсякая жывая справа зараз жа і зацісківалася, калі грамадзянская думка крэпка спала, калі ўсё жыццё якась пашарэла і прынікла" („І. Неслухоўскі").

Крытык і тут падкрэслівае амаль поўную адсутнасць беларускай інтэлігенцыі, якая б прычынілася да росту нацыянальнай свядомасці народу. Цешыць яго з'яўленне жменькі людзей, „так ці сяк" дарабіўшайся да нацыянальнага самаадчування (В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, А. Ельскі і іншыя), але, на жаль, творы іх да народу „(...) бадай што не даходзілі, а спольшчаная і абруселая беларуская інтэлігенцыя пачытывала іх з усмешкай, як нешта мілае і ў той жа час бадай-што ні для чаго не патрэбнае".

У такіх умовах, як заўважае Багдановіч, „(...) пісьменніцкая праца не магла быць колькі-небудзь напружанай, што і адбілася на малым ліку твораў Неслухоўскага", але не перашкодзіла гэта таму, каб: „Талент яго ўстаў перад чытачамі ва ўвесь свой рост...".

Немалое месца ў спадчыне Багдановіча займала публіцыстыка. З аднаго боку, яна прадаўжала традыцыі „Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага, прадмоў да „Дудкі беларускай" і „Смыка беларускага" Францішка Багушэвіча, з другога боку — ён адрасаваў яе да тых, хто нічога не ведаў пра беларускую літаратуру, культуру.

У пэўнай ступені гэтую яго дзейнасць, паводле Рыгора Бярозкіна, абумовіла такое знамянальнае супадзенне. А менавіта, „(...) у тым самым 1911 г., калі Багдановіч наведаў Вільню, асабліва ўзмацніліся розныя нападкі рэакцыянераў — рускіх і польскіх, — скіраваныя на тое, каб ачарніць перадавую беларускую грамадскасць, беларускі нацыянальны рух. Польскія шавіністы бачылі ў гэтым руху „рускую інтрыгу", а рэакцыйная пецярбургская газета „Новое время" Суворына сцвярджала, што няма ўвогуле ніякага руху, што гэта „чыстакроўныя палякі пераапранаюцца ў беларускія світкі і спяваюць беларускія песні" („Чалавек напрадвесні", Мінск, 1986, с. 133).

У адказ і адным, і другім, як сцвярджае Рыгор Бярозкін, Багдановіч напісаў шэраг артыкулаў грамадзянскага характару.

Большая частка публіцыстыкі пісьменніка — на рускай мове. У ёй расказвае рускаму чытачу аб гісторыі роднай культуры, літаратуры і грамадска-палітычнага руху, гаворыць аб жыцці народа і клопатах народнай інтэлігенцыі.

(*Працяг будзе*)

**ЯНІНА ТРАЧУК**

# *МІТРАПАЛІТ У БЕЛЬСКУ*



21 верасня (8-га паводле старога стылю) Праваслаўная царква адзначае Нараджэнне Прачыстае Дзевы Марыі. У Бельску гэта самае вялікае прыхадское свята. Людзі называюць яго коратка: Прачыста.

Сёлетняй Прачыстай прыдаў бляск прыезд у Бельск мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы, архіепіскапа Васілія. Афіцыйнае прывітанне мела месца ў пятніцу 20 верасня, у 17.30. Галаву Праваслаўнай царквы ў Польшчы вітаў сабраны перад Прачысценскай царквой народ, духавенства і дзеці з Пачатковай школы н-р 3, якія сыпалі кветкі па дарозе ад парафіяльнага дома ў царкву. Затым мітрапаліт са святарамі адслужылі ўсеначную. У пятніцу служыліся яшчэ два акафісты: Божай Маці і за памёршых. Царква была адчынена ўсю ноч з пятніцы на суботу, усю ноч у ёй маліліся людзі.



*Мітрапаліт выходзіць з парафіяльнага дома ў царкву.*



*Дзяўчаткі з „Тройкі” сыплюць кветкі па дарозе ў царкву.*




*Пачалася выбарчая кампанія.*

У дзень свята былі адслужаны дзве абедні і яшчэ раз акафіст Божай Маці. Другую абедню, у 10.30, адправіў мітрапаліт у саслужэнні прысутнага духавенства. Святочны дзень закончыла вячэрня а 18-тай гадзіне.

Настаяцель Прачысценскае царквы ў Бельску а. Уладзімір Блізнюк сказаў, што сёлетняе свята было надзвычай урачыстае. Ужо даўно не было ў царкве і вакол яе столькі народу. Пэўна, паспрыяла гэтаму субота — вольны ад працы дзень, і цудоўнае надвор'е. Але не толькі гэта. Увогуле наглядаецца цяпер зварот людзей да рэлігіі, ды і палітыка дзяржавы гэтаму спрыяе — у царкву не баіцца ўжо прыйсці ні паліцыянт, ні афіцэр, ні чыноўнік. „Дзеці з нашае беларускае школы маюць усё больш кантакт з царквою, яны і сустракалі Уладыку” — гаворыць а. Уладзімір.

Не абмінула царкоўнага свята і палітыка, якая, хоч не хоч, кранае аспекты чалавечага жыцця. Карыстаючыся тым, што перад царквою збіраўся вялікі натоўп людзей, прапаганду сваім кандыдатам перад выбарамі ў польскі парламент рабілі Беларускі выбарчы камітэт і Выбарчы камітэт праваслаўных.

**М.В.**




*Перад прыездам дастойнага госця.*



*Ларкі - чаго тут і не было?*

**Фота Міколы Ваўранюка.**

# ЖЫВЕ САБЕ БЕЛАРУСЬ!

( Працяг са стар. 1 )

Толькі падпісаўшыся на спіску „зняць", пабачыў я трэцюю групоўку, якая збірала подпісы ў карысць „перанесці". Поўная дэмакратыя, адным словам, а кажуць, што няма ў нас яе традыцыяў.

Ужо ў самым канцы дня Вярхоўны Савет прыняў яшчэ адно важнае рашэнне. Былі зацверджаны новы сцяг і герб Рэспублікі Беларусь. Як напісала наступнага дня „Народная газета": „...над намі ўсімі лунае спрадвечны бел-чырвона-белы беларускі сцяг, а наша „Пагоня", парваўшы ланцугі таталітарызму, зноў, як і стагоддзі назад, імчыць за шчасцем і воляй народа."

Відаць, пачынаецца ў беларускім друку перыяд нацыянальнай рыторыкі. Вечарам, пасля заканчэння сесіі, у папулярнай праграме тэлебачання „Крок" старшыня Шушкевіч тлумачыў, як разумее слова айчына. Але вуліца пакуль што рыторыку ўспрымаць не хоча. Пра пастанову гарадской рады аб перайменаванні назваў галоўных вуліц Менска ведаюць болей у Беластоку, чымсьці ў самой сталіцы. Жыццё ідзе нармальна. Энтузіязму не відаць, а твары ў грамадзян вольнай Рэспублікі Беларусь такія ж панурыя, як былі ў савецкіх граждан.

Не рэагуе на беларускія праявы незалежнасці Масква. „Известия" з 20 верасня інфармуюць пра новага старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі, але ні словам не ўспамінаюць аб іншых пастановах парламента суседняй дзяржавы. Паводле Масквы і расейскай секцыі „Радыё Свабода" беларуская „незалежнасць" гэта рэзультат дагавору кансерватыўных камуністаў з нацыяналістамі: першым — улада, другім — сцяг.

Не наглядаецца таксама аніякага асаблівага ажыўлення ў кабінетах улады, там, дзе думаюць, як пракарміць чалавека. У міністэрствах нічога не паказвае, быццам бы нехта прабаваў распусціць урад. Спакойна ідзе праца. Праблемы „разработваюцца", пытанні „рашаюцца", а калі ёсць нейкія сумненні, тады тэлефануюць у Маскву.

Нармальным тэмпам адбываецца таксама культурнае адраджэнне. Самым цікавым культурным здарэннем першага тыдня незалежнасці здавалася быць выстава менскага авангарду ў Дзяржаўным музеі. Паводле афішы, якую я ўгледзеў у рэпрэзентацыйным гатэлі „Юбілейная", адкрыццё выставы мела быць 17 верасня ў 17.00. На жаль, на месцы аказалася, што ў музеі гэта выхадны і ніхто нічога не ведае. Збянтэжаныя працаўнікі паяснялі, што, відаць, нехта памылкова надрукаваў афішы і замест кастрычніка паставіў верасень, маўляў, гэта здараецца. Справа выяснілася праз два дні. Знаёмы мастак расказаў, што выстаўка сапраўды была, але... у верасні 1990 года. Жыве сабе спакойна і павольна Беларусь!

**В. СЕЛЬВЯСЮК**

## НАШЫ КАНДЫДАТЫ

# КУДЫ МЫ ІДЗЕМ?

( Працяг са стар. 3 )

той хоць бы і ў лес пойдзе ды грыбоў назбірае, а ты прывязаны да гаспадаркі. Лес, мы пра яго гаварылі, ён таксама можа быць прадукцыяй, толькі што яго немагчыма павязаць з гадоўляй жывёлы. А, зрэшты, права ў нас яшчэ такое: нібы я гаспадар у сваім лесе, але абы-які ляснік важнейшы ў гэтым жа лесе за мяне. Што тут і казаць. Пакуль не будзе паправы ва ўсёй гаспадарцы, пакуль не будзе вядома, куды мы ідзем, бо, па-мойму, мы яшчэ не ведаем, куды ідзем, прыватызацыя не толькі не палепшыць дзяржаўны бюджэт — яна яго пагоршыць. Сёння няма ніякай галіны прамысловасці, пра якую можна сказаць, што яна на будучыню — усё дыхае толькі на сённяшні дзень. Усходні рынак збыту не толькі з эканамічнай прычыны ў такой сітуацыі — тут перад усім палітычныя чыннікі. Пакуль наша ўлада да гаспадаркі будзе падыходзіць з палітычнага боку, то здаровай эканомікі ў нас доўга яшчэ не будзе. У кожным выпадку, калі сусед з суседам добра жывуць, то і ў іхніх гаспадарках ладзіцца, а калі дрэнна між сабою жывуць, то ніякага інтарэсу паміж імі няма — хіба што адзін на другога плюне альбо брыдкім словам перакінуцца.

*— Дзякуем Вам за размову.*




Сэрцайка! Рэдка пішуць табе мужчыны, але я проста вымушаны гэта зрабіць. Меў я маладосць даволі бурную — дзяўчат было, як кажуць, на пучкі. Жаніцца не спяшаўся. А ў трыццаць гадоў трапіў на „сваю". Вельмі прыпала яна мне да густу. Была, аднак, перашкода: мела ўжо сына — з мужам развялася. Але прыгожая якая! І я вырашыў, нягледзячы на ўсё, ажаніцца з ёю.

У мяне была кватэра, і яна перайшла жыць да мяне, пакінуўшы сына на выхаванне сваім бацькам. Праз год у нас нарадзіліся блізняты. Нашы супольныя сябры прыходзілі ў адведкі, прыносілі падарункі. Было мне вельмі прыемна, што я, хаця доўга не жаніўся, то цяпер затое маю адразу двое дзяцей.

Сямейным шчасцем не цешыўся я, аднак, занадта доўга. Жонцы маёй хутка абрыдла ўся хатняя валакіта. Вырашыла яна, што гэта псуе яе выгляд. Аддала і гэтых дзяцей маці, каб пільнавала іх, а сама знайшла абы-якую працу — каб толькі не сядзець дома. Блізнятак мы забіралі пасля працы дахаты. Стала цяжэй. Жонка зарабляла тых грошай таксама як кот наплакаў, але мела сатысфакцыю, што знаходзіцца сярод людзей, а не сядзіць у пялёнках.

І вось трапілася ёй аказія паехаць у Амерыку, каб зарабіць. Блізняткам было па паўтара годзіка, калі іх мама выбралася ў падарожжа за акіян. Я не пратэставаў. Мае маці і бацька абяцалі, што памогуць. Я быў поўны надзеі і лічыў, што адзін год неяк прамучымся, а тады вернецца жонка і мы зажывем як людзі. Аднак жа мінуў год, а жонка мая вяртацца не збіралася, а нават пачала радзей пісаць. Пазней ужо прысылала толькі віншавальныя паштоўкі.

А пасля прыехаў мой сябра, які выпадкова сустрэў яе за граніцай, і расказаў, што бачыў яе там, цяжарную, з нейкім мужчынам. Я вырашыў даведацца бліжэй, што здарылася, і напісаў сяброўцы, якая была ў Амерыцы ў тым жа горадзе, каб даведалася, што там і як. Жончыны бацькі як бы вады ў рот набралі — не гаварылі мне нічога. Пакуль тая сяброўка мая даведалася, пакуль пісала, выйшла на яву тое, што ў маёй жонкі ўжо ёсць наступнае дзіцятка, якое яна таксама падкінула яго бацьку. Нават ужо жыве з наступным мужчынам.

Мінула сем гадоў ад часу, калі мая жонка паехала „на заробкі". Мой боль прытупіўся, аціх, пачуццё крыўды чалавека, якому здрадзіла жонка, пагасла. Але засталася крыўда на ўсё жыццё за яе адносіны да блізнятак. Я чуў, што жонцы маёй нарэшце ўдалося някепска абсталявацца ў той Амерыцы, жыве сабе цяпер прыпяваючы. А мае ж блізняткі пайшлі ўжо ў школу, ім так многа ўсяго трэба. Маці ж іх як камень — ні слоўца якога, ні матэрыяльнай дапамогі. Ці можна быць такім зверам, каб пра ўласных дзяцей забыцца?..

**Антон**

Антон! Звяры якраз пра сваіх дзяцей дбаюць выключна! Песцяць іх, туляць, шукаюць ім яды. Гэта людзі здараюцца горшыя за звяроў. Чалавек чалавеку часамі патрапіць такое зрабіць, што ў чалавечым розуме не месціцца. Як жа можна пакінуць назаўсёды такіх маленькіх дзетак, ды не цікавіцца імі?!. Птушка зязюля яна, а не звер, калі падкідае сваіх дзяцей на выхаванне камусьці. Старэйшага сына — бацькам, блізнятак — табе, а наступнае дзіця — таксама ягонаму бацьку. Дзе ж тут грошай набрацца, каб кожнаму дзіцяці хаця аліменты плаціць...

Душы ў гэтых людзей чэрствыя, ледзяныя, быццам з жалеза зробленыя. Як можна жыць спакойна і шчасліва, ведаючы, што твае дзеткі чакаюць дзесьці мацярынскага цяпла і ласкі?..

Страшны суд над ёю будзе! А ты, Антон, пашукай сабе бабу менш прыгожую!

**СЭРЦАЙКА**

************************************************************

# МАЛЫ НАРОД ПАД МІКРАСКОПАМ САЦЫЁЛАГА

( Працяг са стар. 7 )

эмацыянальнай сувязі з польскасцю, што ў палякаў-католікаў. Праваслаўнага паляка хутчэй за ўсё ірытуе польская нацыянальная міфалогія і яе сімвалы, чымсьці выклікае пачуццё гонару. Ягоная польскасць не ёсць вынік выхавання на вартасцях польскай культуры і пачуцці сувязі з гісторыяй народу, з якім атаясамліваецца. Сацыяльны аванс гэтых людзей, што нарадзіліся ў асяроддзі „тутэйшых", „простых людзей", „праваслаўных", наступіў у польскамоўным асяроддзі і пры фармальнай акцэптацыі тых вартасцяў, якія прапанавала народная ўлада. Эмацыянальныя сувязі і сантыменты ў нашых палякаў засталіся з той сістэмай, што называлася Польскай Народнай Рэспублікай. ПНР, прынамсі фармальна, стварыла ўсім роўныя шанцы авансу, забараняючы сваім функцыянерам распытваць людзей пра іхнюю нацыянальнасць і веравызнанне, трактуючы ўсіх грамадзян як палякаў і членаў сацыялістычнай супольнасці. Гэта ідэальна пасавала выхадцам з беларускіх вёсак, якім дэманстрацыя свае іншасці не была патрэбна. У сувязі са зменамі, што наступілі ў Польшчы і давялі да агульнага зніжэння жыццёвага ўзроўню, большасць праваслаўных палякаў нейк аўтаматычна спалучае гэтыя працэсы з дамінацыяй польскай нацыянальнай ідэалогіі, якая аж надта выразна нагадвае трыццатыя гады і ўсе беды тае эпохі.

Са здзіўленнем гляджу я на маіх знаёмых праваслаўных палякаў ды іхнюю псіхалагічную разгубленасць у апошні час. Адзін з іх, яшчэ нядаўна дырэктар вялізнай фірмы, які некалькі гадоў запар казаў мне, што ніякіх беларусаў на Беласточчыне няма, а ёсць толькі праваслаўныя палякі, пачаў рэагаваць трохі нервова. Гледзячы ў тэлевізары нейкую трансляцыю, дзе выступалі ксяндзы і вайскоўцы, ён з праклёнамі падхапіўся і пабег да тэлевізара змяніць праграму. — Не дазволю, — паясніў ён, — каб яны дэмаралізавалі маіх дзяцей. Калі я заўважыў, што ніякай дэмаралізацыі там не было, а толькі спявалі польскія патрыятычныя песні, і ён, як паляк, павінен слухаць іх з прыемнасцю, яго кінула ў злосць, а ў мой адрас паляцела — „ты польскі нацыяналіст".

Ёсць пэўная катэгорыя людзей, якія могуць быць шчырымі патрыётамі і лаяльнымі грамадзянамі ў любой дзяржаве, абы толькі яна дала ім працу і пачуццё сацыяльнага дабрабыту. На Шлёнску перад вайной гэткіх людзей называлі „хахарамі". Некаторыя з іх раз выступалі як палякі (нават бралі ўдзел у шлёнскіх паўстаннях супроць немцаў), а калі польская дзяржава не задаволіла іхніх спадзяванняў, яны вельмі хутка ператварыліся ў немцаў (уключна з членствам у нацысцкай партыі). Я думаю, што вялікая колькасць тых, што акрэсліваюць сябе „праваслаўнымі палякамі", у адпаведных умовах маглі б стаць расейцамі, французамі, а нават беларусамі. Праблема тут: за якую цану? Шмат з тых дзеячоў, якія ў трыццатыя гады арганізавалі разам з паліцыяй і дзяржаўнай адміністрацыяй гэтак званы „Рух праваслаўных палякаў", у час нямецкай акупацыі апынулася ў Беларускім камітэце.

Пры ўсіх гэтых заўвагах трэба мець на ўвазе, што сярод праваслаўных вернікаў могуць быць і такія, якія сапраўды акцэптуюць польскасць і з'яўляюцца шчырымі польскімі патрыётамі. Магчыма, што такія ёсць і на Беласточчыне.

Кніжку Анджэя Садоўскага я рэкамендую пачытаць усім тым, якія бяруць голас у беларускіх справах і аспіруюць да звання беларускіх дзеячоў альбо й палітыкаў. Яна неабходная ў іхняй (нашай) адукацыі. Шкада толькі, што яе наклад невялікі, і зараз цяжка здабыць яе ў кнігарні.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

———————————————

Andrzej Sadowski, Narody wielkie i małe. Białorusini w Polsce, Kraków 1991, s. 183.

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Пішуць вучні

*23 верасня 1991 г.,*
*Бельск-Падляшскі.*

**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць табе вучні IIIд класа Пачатковай школы нумар 3 у Бельску-Падляшскім. На ўроку беларускай мовы наша настаўніца чытала нам прыгоды мышкі Пік-Пік. Гэты ўрок быў вельмі вясёлы. Спадабаліся нам прыгоды мышкі, коткі і Веранічкі. Яны былі надта цікавыя і смешныя. Цяпер будзем заўсёды купляць „Ніву", чытаць „Зорку", у якой такія цікавыя тэксты. А прыгоды мышкі, як ты прасіла, мы намалявалі. Высылаем табе нашыя працы.

**Клас IIIд**
**і Аліна Ваўранюк.**

**Дарагія дзеці і пані Аліна!**

Вельмі дзякую за малюнкі. Чорна-белыя будуць друкавацца на нашых старонках, каляровыя перашлем Людміле Рублеўскай, маме Веранічкі. Праз некалькі тыдняў зноў да нас завітае мышка Пік-Пік, чакайце!

Дзякуй вялікае за малюнкі да казкі „Гарошак", якую слухалі па радыё, **вучням IV і V класа школы ў Трасцяніцы:** Пятру Монаху, Магдалене Какарэка, Ані Буслоўскай, Мірку Чэда, Басі Трафімюк, Мажэне Антонюк, Ані Сіманчук і Асі Максімчук. Сапраўды — малюнкі вельмі прыгожыя, казачна каляровыя; шкада, што нашыя чытачы не пабачаць, якія яны цудоўныя — на старонках „Зоркі"! Цяпер вашыя малюнкі цешаць вочы наведвальнікаў рэдакцыі „Нівы".

Чакаю вашых здымкаў і апавяданняў пра тое, як вы правялі свае канікулы.

**Міра Лукша**



*Мышка Пік - Пік.*

**Малюнак Касі Тамашук.**



**Аня Адамюк з Чыжоў.** *Фота М. Ваўранюка.*

*********************************************

# АКНО



На дварэ ліў дождж. Прагулка адмянялася, і сумныя дзеці сядзелі кучна, як птушаняткі, каля Ніны Раманаўны, сваёй выхавальніцы. Хтосьці ціха ўздыхнуў:

— Дадому хочацца...

Ніна Раманаўна, каб развеяць невясёлы настрой, прапанавала:

— Раскажыце, дзеці, пра свой дом. За што вы яго любіце?

Пацягнуліся ўгору рукі.

— Я больш за ўсё люблю кухню, там весела, — сказаў Коля.

— Там смачна, — дадала Люда.

— Там смачна і весела, — удакладніў Коля. — Весела, бо на кухні збіраецца ўся сям'я.

Падняўся Вова.

— А я люблю крэсла, што стаіць насупраць тэлевізара. Сядзіш сабе, коўдрай накрыешся, каб цяплей было, а яшчэ кот на калені залезе...

— Няма лепшага месца ў хаце, чым ложак, — сказаў Юра. — Толькі ляжаш — і сон прысніцца, нібы кіно глядзіш.

— А ты, Люся, чаго маўчыш? — спытала Ніна Раманаўна. — Раскажы пра свой дом.

Люся прызналася:

— Я люблю акно...

— Якое акно? — зацікавіліся дзеці.

— Тое, што ў нашай кватэры.

— Раскажы, Люся, раскажы, — падахвоціла Ніна Раманаўна.

— Я заўважыла, што кот Барсік кожны дзень на падаконніку сядзіць і з вуліцы вачэй не зводзіць. Ці машына праедзе, ці людзі ідуць — усё яму цікава. А птушка сядзе на балконе — Барсік наструньваецца, шэрстка надымаецца, вочы вялікія становяцца. Лапкай стукне па шыбіне — і птушка знікае. Рашыла і я паглядзець на свет там, за акном. Самае цікавае — гэта сонейка. У маё акно яно рана зазірае. Спачатку яно маленькае і толькі выглядае з-за пад'ёмнага крана. На другім баку вуліцы ў нас дом будуецца. Пачынае круціцца кран — і сонейка круціцца. Потым бачу: вялікае стала, падскочыла вышэй крана, вышэй усіх дамоў і дрэў. Так яно і скача, сонейка, цэлы дзень. З дома на дом, з крана на кран, з аднаго дрэва на другое...

А ўзімку сонца рэдка свеціць, болей снег ідзе. Сняжынкі павольна

( Працяг на стар 10 )

## Для самых маленькіх

Авяр'ян Дзеружынскі

## МАЙСТРЫ

Заняты справаю
Мурашкі.
Не лічаць свой занятак
Цяжкім.

Хто цягне
Бурую ігліцу,
А хто лісток,
А хто травіцу,
А хто
Сухі сучок дубровы —
Усё патрэбна
Для будовы
У бары
Вялізнага палаца.

І дружна так
Ідзе тут праца,
Аж глянуць збоку
Проста люба...
Няма ні даху
І ні зруба,
Ні крокваў тых,
Ні сцен,
Ні столі,
А дом-палац
Расце трывалы
І не абрушыцца
Ніколі.
Яго ніколі
Не разбураць
Ні буры —
Злосныя навалы.
Яго старанна,
Адмыслова
Майстры-мурашкі
Збудавалі!



## ЧАЧАВІЦА

— Чучы-вачы,
Чучы-вачы —
Чачавіцу
Чуеш, бачыш? —
Выхвалялася
Пяюшка,
З грудкай вогненнаю
Птушка
І з чырвоным кажушком,
З доўгім
Шэранькім хвастком.

Адказаў я
Чачавіцы:
— Ты спяваеш
На галінцы,
Чую я цябе
і бачу...

А яна ўсё:
— Чучы-вачы, —
І спявае,
І спявае
Ды ў гняздзечка
Мох цягае.




*Летні ўспамін. Хлопчыкі з Бельска на канікулах у Старыне.* *Фота.У. Ваўранюка*

# ЗАГАДКІ

**Казімір Камейша**

У гэтай знаёмай хаціне малой,
Хоць ёсць і цяпло і згода,
Чатыры браты разам жывуць,
А пяты асобна заўсёды.

Знаёмец ну і смешны мой!
Як растлумачыць тое:
Спачатку быў яешняю,
А стаў скаварадою?

Церaз лугі, лясы, лагчыны
Два браты сястру
Вядуць
З блакітнымі вачыма.

*Адгадкі шукай на старонках.*




Чабурашка знайшоў адну капейку. Прыходзіць ён дадому і пытаецца ў Гены:

— Ген, а Ген, што можна купіць за адну капейку?

— Адчапіся!

— Ген, а Ген, што можна за адну капейку купіць?

— Адчапіся!

— Ген, а Ген, што можна за адну капейку купіць?

— Усё!!!

Прыйшоў ён у краму, набраў цацак, падыходзіць да касы і дае касірцы адну капейку. Тая глядзіць на яго са здзіўленнем, а Чабурашка ёй кажа:

— Дайце рэшту!

x x x

Хлопчык прыйшоў дамоў з малышом на руках.

— Чый гэта малы? — пытае маці.

— А наш. Я абмяняў яго на самакат.

x x x

— Мама, сёння, калі прыйшлі да нас госці, я зрабіў добрую справу.

— Якую?

— Брат непрыкметна паклаў госцю на крэсла кнопку...

— А ты што зрабіў?

— Я пачакаў, пакуль госць пачаў садзіцца, і ў гэты момант забраў з-пад яго крэсла!




## РАПУХА ЗЯЛЁНАЯ

Рапуха зялёная — з земнаводнага сямейства рапух, атрада бясхвостых. Жыве ў Еўразіі і Паўночнай Афрыцы. На Беларусі звычайны від. Трапляецца на ўскрайках лісцевых і мяшаных лясоў, на палях, у агародах і садах, паблізу жылля, у склепах. Рапуха актыўна на змярканні і ўначы. Карысная. Корміцца жукамі, клапамі, вусенямі і іншымі беспазваночнымі, сярод якіх многа шкоднікаў сельскай і лясной гаспадаркі.

Даўжыня цела рапухі — 5-7 (10) см. Скура бугрыстая, зверху шэра-аліўкавая з вялікімі цёмна-зялёнымі плямамі, часта з чырвонымі кропкамі, знізу брудна-белая з дробнымі размытымі плямкамі. Па баках галавы 2 скопішчы атрутных залоз-паратыдаў; выдзяленні скурных залоз таксама атрутныя (для засцярогі ад драпежнікаў). Спосаб жыцця рапухі — наземны. Палавая спеласць на 4 годзе жыцця. Рапуха размнажаецца ў маі-чэрвені. Самцы падаюць шлюбныя меладычныя трэлі (рэзанатар знаходзіцца пад скурай горла). Самка рапухі адкладвае ікру ў выглядзе шнура ў два рады даўжынёй да 7 метраў, які аплятае водныя расліны або ляжыць на дне каля берага. Плоднасць — 3-5 тысяч ікрынак. Лічынкі вылупліваюцца на 5-6 дзень; працягласць лічынкавага перыяду 45-60 дзён. Памеры сяголеткаў пасля метамарфозы — 1-1,6 см.

Рапуха зімуе ў норах, пад камянямі, у ямах, паасобку або па 3-4, закапаўшыся ў глебу. Працягласць зімоўкі — каля 180 дзён.

Пра іншыя рапухі раскажам у наступным нумары.

**********************************************

# *Вершы пра родную мову*

## ТАІСА БОНДАР

Я выпешчу, выпушчу ў ранак вясновы,
Як птушак, душы запаветныя словы
Пасланцамі песеннай матчынай мовы.
Каму — і якія! — патрэбны замовы,
Каб не забыць, як на голлі сасновым
Ліўні развешваюць смех перуновы,
Каб не забыць, як на лісцях кляновых
Дыхае хлеб у цішы вечаровай.
Родная мова...
Нас ёй вучылі
Цёплыя маміны рукі ў маршчынах,
Вусны каханага, песні спачынку,
Боль у вачах адзінокай жанчыны,
Сны, і бяссонне пад спеў салаўіны, —
Даўнія, горкія бацькі ўспаміны...

Несці нашчадкам мне ў сэрцы даччыным
Матчыну мову, мову Айчыны.

## СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

Стаяць у чаканні людзі,
Чарга не за хлебам — за словам.
Хто радасць у сэрцах будзіць? —
Мая беларуская мова.

Акроплена горкай слязою,
Умыта крывёю гарачай,
Яна шлях да еднасці зорыць,
Нас вучыць сябе ў свеце бачыць.

Шчыруха, палёў працаўніца,
Цнатлівая гараджанка,
Яна, як крыніца, бруіцца,
Палае нязгаснай заранкай.

Стаяць у кнігарні людзі,
Патрэбна, як хлеб, людзям слова...
На роўных была, ёсць і будзе
З акрайцам
спрадвечная мова.

**********************************************

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А


**Колькі тут рыбак?**

# АКНО



**( Працяг са стар. 9 )**

падаюць, даганяюць адна адну. Некаторыя сябруюць і ляцяць разам. Іншыя нібы сварацца, кідаюцца ў розныя бакі, потым мірацца і ціха апускаюцца на зямлю. Усяго гэтага Барсік не бачыць, бо ён не любіць зімы. Ляжыць пад акном, каля цёплай батарэі, і думае, што гэта печка. Вясной, як толькі сонца прыгрэе, — кот зноў на падаконніку. Заплюшчвае вочы ад сонечнай ласкі, усміхаецца ў вусы і спявае нешта вясёлае. Вясне рады! І я сяджу разам з Барсікам, таксама вясне радуюся. Вось таму і кажу, што люблю акно...

Дзеці памаўчалі хвілінку, а потым Вова спытаў:

— Значыць, цябе кот навучыў акно любіць?

— Кот, — спакойна пагадзілася Люся.

Усе засмяяліся.

— Не смейцеся, дзеці, — сказала Ніна Раманаўна. — Люся шмат цікавага ўбачыла за акном і добра расказала пра гэта. А калі ёй дапамог кот — дзякуй яму, Барсіку...

На дварэ ўсё яшчэ ліў дождж. Дзеці сядзелі ціха, і кожны думаў пра свой дом.

— Хто яшчэ нам раскажа? — спыталася Ніна Раманаўна.

Угору пацягнуліся рукі.

Раскажыце і вы пра свой дом, сябры.

**ТАІСА САРВІРА**

*( Адгадкі: берагі і рака, сланечнік, рукавіца ).*




* * *

Беларусь, 210029, г. Віцебск, вул. Праўды, д. 41а, кв. 16, **Анашчэнка Іра** (10 гадоў, збірае паштоўкі з жывёламі і кветкамі, гадуе хамяка і папугайчыкаў).

* * *

Беларусь, 225001, г. Брэст, п/о Чэрні, вул. 70 гадоў Кастрычніка, д. 7, кв. 2, **Пашкевіч Наташа і Маша** (13 і 11 гадоў; пісаць па-беларуску ці руску).

* * *

Беларусь, 230005, г. Гродна, вул. Дзяржынскага, д. 123, кв. 48, **Наташа Ушкевіч** (14 гадоў, збірае каляндарыкі, фанцікі, паштоўкі, любіць сучасную музыку, спорт; пісаць па-руску ці беларуску).

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ

### 7. Спрадвечная лексіка беларускай мовы.1

Спрадвечна беларуская лексіка — гэта лексіка, якая існуе ў беларускай мове спакон вякоў і з'яўляецца крыніцай утварэння новых слоў.

На працягу шматвяковай сваёй гісторыі беларуская мова развівалася, усё ўзбагачаючы свой лексічны састаў. Якраз лексіка з'яўляецца той часткай мовы, якая паддаецца найбольшым зменам, выкліканым зменамі рэчаіснасці. З аднаго боку, лексічны склад мовы ўсё папаўняецца новымі словамі, абазначаючымі новыя рэаліі жыцця, а з другога боку, з актыўнага ўжытку адыходзяць тыя словы, якія абазначаюць устарэлыя паняцці ці прадметы (гістарызмы) і ўстарэлыя назвы такіх прадметаў, з'яў і паняццяў, якія існуюць і ў наш час, але для іх абазначэння выкарыстоўваюцца іншыя словы (архаізмы).

У складзе спрадвечнай беларускай лексікі вылучаюцца чатыры пласты слоў: індаеўрапейскія, агульнаславянскія (праславянскія), усходнеславянскія і ўласнабеларускія.

**Індаеўрапейскія словы.**

Індаеўрапейскімі называюцца такія словы, якія ўзніклі ў перыяд індаеўрапейскай этнічнай агульнасці. Індаеўрапейская мова распалася ў IV тысячагоддзі да нашай эры. Тады словы індаеўрапейскай мовы ўзялі ў спадчыну мовы індаеўрапейскай сям'і: славянскія, заходнееўрапейскія, індыйскія і інш., напрыклад: „бел. *два*, рус. *два*, укр.*два*, балг. *два*, сербахарв. *два*, славен. *dva*, чэш. *dva*, слвц. *dwa*, польск. *dwa*, в.-луж. *dwaj*, н.-луж. *два*, ням. *zwei*, англ. *two*, франц. *deux*, літ. *du*, лат. *divi*, ст.-прус. *dwai*, ст.-інд. *duvan*, лац. *duo*, ірл. *dau*, гоц. *twai*, алб. *dy*".2

Да сённяшніх часоў з індаеўрапейскай мовы дайшлі (зразумела, у зaward форме) назвы:

— роднасці і сваяцтва: *дзевер, дзед, свякроў, сын, сястра,*

— органаў і частак цела чалавека і жывёлы: *вуха, зуб, калена, язык, грудзі, вымя,*

— жывёл, птушак, насякомых: *алень, воўк, дрозд, жураве́ль, аса, блыха,*

— раслін і іх частак: *бяроза, дуб, лён, жолуд, кара, сук,*

— населеных пунктаў, будынкаў і іх частак: *горад, дом, вароты, дзверы,*

— паняццяў зямной паверхні і яе нетраў: *балота, гара, мора, вугаль, камень, скала ,*

— атмасферных з'яў: *вецер, град, дым, раса, снег,*

— прылад і прадметаў працы: *вось, жорны, саха, цэп,*

— часавых паняццяў: *век, вечар, дзень, зіма, ноч,*

— некаторых абстрактных паняццяў: *бяда, вера, дзіва, дух,*

— прымет і якасцей: *босы, крывы, новы, сівы, сухі, цёмны,*

— дзеянняў, станаў: *біць, везці, капаць, плесці, гарэць, кіпець,*

— асобныя лічэбнікі, займеннікі, прыназоўнікі: *два, сто; вы, свой; аб, па.*

**Агульнаславянскія словы.**

У III тысячагоддзі да нашай эры ў асобную групу выдзеліліся славянскія плямёны, і пачала фарміравацца агульнаславянская (праславянская) мова, якая праіснавала звыш трох тысяч гадоў. Узяла яна ў спадчыну многія словы з індаеўрапейскай мовы. Апрача таго за перыяд яе існавання ўзніклі новыя словы, якія адлюстроўвалі асаблівасці жыцця славян. Агульнаславянскія словы выкарыстоўваюцца ва ўсіх славянскіх мовах, напр. „бел. *галава*, рус. *голова*, укр. *голова*, балг. *глава*, сербахарв . *глава*, славен. *glava*, чэш. *hlava*,слвц. *hlava*, польск. *głowa*, в.-луж. *hłowa*, н.-луж. *głowa*".3

Сярод агульнаславянскіх слоў самы шматлікі разрад скдладаюць назоўнікі, а менавіта назвы:

— роднасці і сваяцтва: *баба, жаніх, мачаха, сват, сірата, удава,*

— органаў і частак цела чалавека і жывёлы: *барада, горла, жыла, мышцы, ноздры, шыя,*

— жывёл, птушак, рыб, насякомых: *баран, мядзведзь, варона, дзяцел, акунь, сом, клешч, чарвяк,*

— раслін і іх частак: *брусніцы, вішня, дыня, чаромха, корань, колас,*

— населеных пунктаў, жылых і гаспадарчых пабудоў і іх частак: *сяло, гумно, акно, страха, парог,*

— зямной паверхні і яе нетраў: *возера, рака, ручай, гліна, жалеза, руда,*

— прылад і прадуктаў працы: *барана, вілы, граблі, замок, мятла, палатно,*

— прадметаў быту: *вядро, жбан, кажух, крэсла, мыла, пасцель,*

— прадуктаў харчавання: *блін, калач, квас, кісель, масла, піва,*

—часовых паняццяў: *год, восень, лета, месяц, міг, чацвер,*

— абстрактных паняццяў: *боль, гнеў, клятва, ласка, праўда, радасць,*

— ваенныя: *бой, вайна, дружына, кап'ё, лук, страла,*

— асоб паводле іх дзейнасці: *ганчар, каваль, купец, прачка, ратай, стараста,*

— грамадска-палітычных паняццяў: *пасол, племя, суд.*

Другі па колькасці разрад складаюць дзеясловы, а менавіта назвы:

— розных дзеянняў і працэсаў: *адзець, варыць, глытаць, кусаць, мыць, цвісці,*

— адчуванняў стану: *баяцца, глохнуць, дрыжаць, пахнуць, сохнуць,*

— руху: *бегчы, ехаць, імчаць, ляцець, паўзці,*

— маўлення: *бармытаць, гаварыць, крычаць, хваліць.*

Вялікую частку агульнаславянскай лексікі складаюць прыметнікі са значэннем:

— якасцей, уласцівасцей, прымет і стану: *багаты, здаровы, лысы, мудры, скупы, хітры,*

— колеру: *белы, жоўты, зялёны, рыжы, сіні, чорны,*

— памеру, вагі: *вузкі, глыбокі, кароткі, тонкі, цяжкі,*

— стану: *горкі, кіслы, чэрствы,*

— часу, адлегласці: *далёкі, даўні, позні.*

Да агульнаславянскай лексікі належаць таксама:

— лічэбнікі: *адзін, чатыры, восем, дзесяць, трыста, тысяча,*

— займеннікі: *я, ён, мы, хто, што, сам,*

— прыслоўі: *куды, сюды, пасля, там, ужо, усюды,*

— прыназоўнікі: *за, над, пад, да, к,*

— злучнікі: *а, і, ды,*

— часціцы, выклічнікі: *так, ні, ну.*

---

1 Літаратура: В.П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 67-71;

В.П. Красней, Грані слова, Мінск 1986, с. 87-91; В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 40-49.

2 В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, ...с. 4

3 Там жа, с. 44.

---

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, што я прыехала на нейкае свята ў сваю вёску, але вёска не выглядае так, як цяпер, а як з 30 гадоў назад — я яе такой мала памятаю, бо была тады малой. Адчуваю толькі нейкі знаёмы запах, настрой з таго часу — быццам успамін. Я сяджу за сталом на кухні, напроціў **вакна** і бачу, як на падворак заязджае драбіністы **воз** (але з коламі—„балонамі"). На возе сядзіць наша **суседка** (яна памерла ў 1978 годзе) і **сусед**, які малады (за 30) памёр на пачатку шасцідзесятых гадоў (я яго зусім не памятаю, ведаю толькі з аповядаў, што памёр на сухоты і вельмі цяжка пакутаваў) — яны нашыя далёкія сваякі, бо ўся вёска — нашы сваякі. Яны вельмі прыгожа апранутыя, чыстыя, урачыстыя. Я выходжу на падворак і думаю — чаго ж яны хочуць? Трэба мне іх прывітаць і так паводзіць сябе, каб іх не абразіць і не ўспамінаць, што яны з таго свету. У сне маім цэлы час стараюся адносіцца да іх, як да жывых людзей, знаёмых, якія прыехалі здалёк, якіх мы даўно не бачылі.

Мы размаўляем і я хачу ім даць гасцінец. Адчуваю, што ў іх нейкая патрэба і што яны спецыяльна да нас прыехалі, альбо і не толькі да нас, а аб'язджаюць усіх знаёмых. Я даю ім місачку з **зернем**, здаецца, пшаніцы ці ячменю, і **паўхлеба**.

— Ну, едзьце ўжо, — кажу і стараюся, каб гэта не гучала нецярпліва, баюся, што скажу, каб нас хутчэй пакінулі і ішлі ў свой свет.

Яны сядзяць ужо на возе, на вуліцы, у тым баку, куды цяпер людзі рэдка едуць, бо змяніліся крыху дарогі і, каб выехаць на асфальт, трэба ехаць у другі бок. Тады мужчына злазіць з воза, вочы ў яго злосныя, чырвона неяк гараць, за ім злазіць жанчына.

— Чаго вы хочаце? — пытаю спалохана.

— Ты хочаш нас адправіць? А я не паеду.

Ідзе да мяне, а я выцягваю **запалкі**, запальваю, і ён займаецца агнём (гэта толькі некалькі секунд) і замяняецца ў чорныя, дробныя галавешкі і попел, які падае на каляіны, і чую голас:

— Цяпер я тут застануся і — **туды** не пайду.

**Міра**

Міра! Вельмі складана табе наснілася. Проста не ведаю, што і адказаць. Нябожчыкаў наогул сніць някепска, але ў гэтым кантэксце, здаецца, нічога добрага яны не прадвяшчаюць.

У кожным разе меў быць поспех у няпэўных (нябожчыкі ехалі на фурманцы) справах, бо ты давала ім місачку з зернем. Але з усяго гэтага вынікне нейкі клопат ці сварка ( пра гэта найвыразней сведчыць тое, што ты выняла запалкі і падпаліла нябожчыка, які замяніўся ў галавешкі і попел).

**АСТРОН**

# Кухонныя парады

## ПІРОГ СА СЛІВАМІ

На паўкілаграма мукі трэба ўзяць 5-6 дэкаў дражджэй, 15 дэкаў цукру, паўшклянкі малака, 10 дэкаў масла ці маргарыну, 4-5 жаўткоў, ванільны арамат ці цукар, 5 дэкаў цукровай пудры, 1 кг сліў-„вянгерак", паўлыжкі масла або лыжку алею, каб змазаць форму.

Муку прасеяць. Дрожджы расцерці з лыжкай цукру, развесці летнім малаком, дадаць 2-3 лыжкі мукі, перамяшаць. Павінна атрымацца маса гушчынёю смятаны. Пакінуць яе ў цяпле, каб падрасла. Жаўткі сцерці з цукрам і палажыць іх у гэту масу тады, калі яе аб'ём падвоіцца, адначасова дадаць рэшту мукі і крыху малака. Мясіць цеста драўлянай лыжкай, а калі ўсе прадукты спалучацца, дадаць летняе растопленае масла або маргарын (можна дадаць крыху падагрэтага алею) і ванільны арамат ды крыху солі. Мясіць цеста так доўга, пакуль яно не пачне адставаць ад лыжкі і сцен посуду.

Ізноў паставіць цеста, каб яно падрасло. Вялікую бляху змазаць маслам ці алеем. Слівы памыць, асушыць, выняць з іх костачкі, разразаючы кожную сліву напалавіну.

Падросшае цеста пералажыць на бляху, выраўняць паверхню. Падрыхтаваныя слівы палажыць на цеста радамі, цесна — палавінка пры палавінцы, перарэзам уверх, крыху прыцісну іх, каб заглыбіліся ў цесце.

Калі цеста падрасце, уставіць яго ў духоўку, нагрэтую да 170 град. Ц.

Спечаны пірог пакінуць у форме, каб астыў. Калі ўжо будзе халодны, пасыпаць яго цукровай пудрай, перамешанай з ванільным цукрам. Рэзаць на квадраты.

Падаваць са збітай смятанкай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## АМАЛЬ НЕ ЗДАРЫЛАСЯ БЯДА

Міхал і Вера цешыліся, што прычакалі сына. Было ў іх ужо дзве дачушкі. Не маглі дачакацца дня, калі выпішуць з бальніцы нованароджанага.

У той дзень выпісвалі з бальніцы і Ніну, якая дзеўкай нарадзіла дзяўчынку. Ніхто да яе не прыходзіў. Нават бацькі не прыехалі ні разу. Дзяўчына часта плакала. Усе яе суцяшалі, але што з іх слоў, калі ўсе блізкія глядзяць на яе воўкам.

Калі акушэрка дала Міхалу дзіця, ён хуценька пайшоў да машыны. Дома бацькі заўважылі памылку. Медсёстры памыліліся і замест хлопчыка далі ім дзяўчынку. Стрымгалоў вярнуліся яны ў бальніцу. Ім сказалі, што гэта дзяўчынка Нінкі.

Хуценька яны паехалі да бацькоў Нінкі. Тут даведаліся, што яе няма, бо ляжыць у бальніцы.

Міхал і Вера аж здранцвелі. Ім стала ясна, што дзяўчына штосьці зрабіла з дзіцём.

Ехалі лясной дарогай. Часта затрымоўваліся і хадзілі ды слухалі, ці дзіця плача. Раптам пачулі пад ядлоўцам нейкі піск. Пабеглі туды. Убачылі дзіця ў пялёнках. Гэта быў іх сын.

Лекар агледзеў хлопчыка і сказаў, што, каб яшчэ гадзіна, то дзіця памерла б ад холаду.

Міхал і Вера, шчаслівыя, вярнуліся дадому. Цешыліся, што іх сын жыве, хаця яго маленькае жыццё магло так лёгка абарвацца.

**АЎРОРА**

Уверх нагамі

## ПАРАДОКСЫ

Што ж лепш адлюстроўвае абсурднасць рэчаіснасці, як не анекдот. Сутнасць рэальнага сацыялізму, наколькі памятаю, найлепш перадаваў той у форме загадкі.

— Што такое шампанскае?

— Гэта напітак, які п'е рабочы клас вуснамі сваіх прадстаўнікоў.

Многае ў нашай краіне ад гэтага часу памянялася, асабліва ў галіне гаспадаркі. І цяпер больш нам падыходзіць стары англійскі анекдот.

— Мама, — пытаецца сын шахцёра, — мне дома вельмі холадна, чаму не паліш у печцы?

— Твой тата страціў працу і няма за што купіць вугаль.

— А чаму татку звольнілі? — пытаецца дзіця, якое не разбіраецца ва ўсіх гэтых грамадска-палітычных пераменах.

— Проста ў краіне замнога вугалю, — адказвае згодна з праўдай мама.

Таксама глыбокія перамены ў жыллёвай палітыцы можна падсумаваць адным сказам. Адзін з заходніх экспертаў па справах жыллёвага будаўніцтва, несвядомы нашых рэаліяў, (гэтыя людзі з Захаду паводзяць сябе, як дзеці) запытаўся:

— Чаму ў гэтым горадзе, дзе пастаянна бракуе кватэр, будуецца столькі касцёлаў?

Хуткая чыноўніца адказала адразу:

— Як гэта чаму? Людзям дзесьці трэба маліцца, прасіць даху над галавою.

Відавочна, не так у нас і кепска, калі маем столькі падстаў да смеху.

ЭКСАН







*Мал. Я. Сасіна („Палітыка")*

### ПЕРАДВЫБАРЧАЯ ПРАМОВА

Як сканструяваць цікавую перадвыбарчую прамову?

Найлепш, каб адну трэць прамовы складалі старыя банальнасці, але выказаныя з гумарам, каб слухачам здавалася, што яны добра забаўляюцца. Сярэднюю частку прамовы трэба прысвяціць істотным пытанням, але дадзеным у такой форме, каб слухачы былі перакананы ў тым, што палітык у іх справе змагаецца прынцыпова. І ўрэшце апошняя частка павінна датычыцца непапулярных з'яў і таму трэба перадаць яе заблытаным спосабам, каб слухачы не ведалі, у чым справа. А на канец зноў крыху ўсмешкі, каб слухачы апладысментамі развіталіся з прамоўцам.

*(Паводле „Карузелі")*

### СМЕЛЫ НАВІЧОК

Дырэктар дае наказ новаму супрацоўніку:

— Прашу вас мецъ на ўвазе, што ў нашай канторы ў рабочы час нельга курыць, займацца балбатнёй, разгадваць красворды.

— А што ж вы тады тут цэлы час робіце?

### СЕРВІС

Кліент сеў у крэсла і папрасіў пагаліць яго. Не вельмі ўважлівы цырульнік парэзаў адзін раз, другі, трэці... Кліент не вытрымаў:

— Дайце і мне брытву, я буду абараняцца!

### ТРАГЕДЫЯ

— Чаму ты такі сумны, Янка?

— Учора ў мяне памёр дзядзька.

— Нічога, не бяры да сэрца, ты хутка забудзеш пра яго.

— Баюся, што ты памыляешся. Ён быў начальнікам майго начальніка.

### ШТО ПРАЎДА, ТО ПРАЎДА

Размаўляюць дзве сакратаркі:

— Агіднае гэта вынаходства — пішучая машынка!

— Чаму?

— Калі не працуеш, усім адразу чутно!

### НЕ ПЕРАХІТРЫЎ

Службовец прыйшоў на працу са спазненнем на гадзіну. Увесь перабінтаваны. Начальнік спытаў, чаму ён спазніўся.

— Я зваліўся з пятага паверха.

— І што ж, вы ляцелі цэлую гадзіну?

*(„Вожык")*



**Адказ на міні-крыжаванку з н-ра 35.**

Уніз: старуха, саквояж, цэнтнер, сівізна.

Упоперак: стратэгія, прыватнік, ахмяленне.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Анна Дземянюк з Бельска-Падляшскага і Аляксандр Дабчынскі з Беластока (таксама за крыжаванку з 34 нумара).




Толькі зараз спаўна адчуваеш і разумееш, наколькі мы за дзесяць год пакрочылі наперад!

Ну, узяць любы бок нашага жыцця — ва ўсім адчуваецца поўнае развіццё і шчаслівы поспех.

А я, браткі ж вы мае, як былы працаўнік транспарту, вельмі наглядна бачу, што, напрыклад, дасягнута і на гэтым даволі-такі важным фронце.

Цягнікі ходзяць узад і ўперад. Гнілыя шпалы знятыя. Семафоры адноўлены. Свісткі свісцяць правільна. Ехаць — адно задавальненне!

А раней! Ды, бывала, у тым самым васемнаццатым годзе. Бывала, едзеш, едзеш — раптам поўны прыпынак. Машыніст, значыцца, гукае з галавы састава: сюды, браткі.

Ну, збяруцца пасажыры.

Машыніст ім кажа:

— Так і так. Не магу, рабяты, далей ісці па прычыне паліва. І калі, — кажа, — каму ёсць інтэрас далей ехаць — вытрахайцеся з вагонаў і айда ў лес па дровы.

Ну, пасажыры пасварацца, паскрыпяць зубамі, маўляў, што яшчэ за новыя правілы на чыгунцы, але ў рэшце рэшт ідуць у лес пілiць і калоць!

Напіляць паўсажня дроў і далей рухаюцца. А дровы, ясная рэч, сырыя, д'ябальскі шыпяць і едуць кепска.

А гэта вось, значыцца, успамінаецца такі выпадк — у тым самым дзевятнаццатым годзе. Едзем мы такім скромным чынам да Ленінграда. Раптам рэзкі прыпынак на паўдарозе. Потым — задні ход і зноў прыпынак.

Пасажыры, вядомая рэч, пытаюцца:

— Што здарылася? Навошта ў лесе прыпынак, і да чаго гэта ўвесь час даецца задні ход? Можа, крый Божа, зноў трэба будзе ісці за дровамі, — машыніст шукае бярозавы гай. А можа обер-кандуктар пайшоў брусніцы да гарбаткі збіраць?

У той час на транспарце здараліся і такія факты — наконт ягад.

Памочнік машыніста кажа цікаўным:

— Не, здарылася не тое, што вы думаеце. На гэты раз здарылася няшчасце. Машыністу шапку здзьмула і ён зараз пайшоў яе шукаць.

Сышлі пасажыры з састава, рассыпаліся па насыпу. Раптам бачаць, выходзіць з лесу машыніст. Маркотны такі. Бледны. Плячыма паціскае.

— Няма, —, кажа, — не знайшоў. Сабака яе ведае, куды яе здзьмухнула.

Паддалі састаў цягніка яшчэ на пяцьсот крокаў назад. Усе пасажыры разбіліся на групы — шукаюць.

Хвілін праз дваццаць адзін нейкі тарбэчнік гукае:

— Гэй, чэрці, сюды! Вось дзе яна.

Бачым, сапраўды машыністава шапка зачапілася за куст, вісіць на ім.

Машыніст надзеў сваю шапку, прывязаў яе да гузіка шпагатам, каб зноў не здзьмухнула, і пачаў разводзіць пары.

І праз паўгадзіны крануліся наперад.

Вось я і кажу. Раней было поўнае расстройства транспарту.

А зараз не тое, што шапку, — пасажыра здзьмухне, і то прыпынак будзе не болей адной хвіліны.

Таму што — час дарагі. Трэба ехаць. Тэмпы не дазваляюць брусніцы да гарбаткі збіраць.

МІХАЛ ЗОШЧАНКА

*Пераклаў з рускай мовы Пятрусь Капчык*

**********************************************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa

1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.

2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.

3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę. Cena 1 egz. z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- październik - 10.000 zł.
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12. 500 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Lista 48

# БЕЛАРУСКІ ВЫБАРЧЫ КАМІТЭТ

Lista 48

## Kandydaci do Sejmu w okręgu białostocko-suwalskim


:TACHWIUK WIKTOR
Lat 43, polityk


LESZCZYŃSKI BAZYLI
Lat 44, nauczyciel


SIELWIESIUK WALENTY
Lat 26, przedsiębiorca


CIEŁUSZECKI MIROSŁAW
Lat 33, rolnik


BAGROWSKI PIOTR
Lat 32, rolnik


MAKSYMIUK ALEKSANDER
Lat 25, dziennikarz

KANDYDAT DO SENATU
Z WOJEWÓDZTWA BIAŁOSTOCKIEGO


SZWED WIKTOR
Lat 66, literat


DĄBROWSKI BAZYL
Lat 33, nauczyciel


ŁUKOSZYK WŁODZIMIERZ
Lat 44, rolnik


KLIMIUK ANNA
Lat 33, handlowiec


KRUK PIOTR
Lat 54, technik-mechanik


CZYKWIN JAN
Lat 51, filolog, literat